Opłata pocztowa
uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр.
Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр.
Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№. 16 Вільня, Субота, 11-га верасьня 1926 г. Год I.

## Да самавызначэньня.

Адна з галоўных прычынаў сталага крызісу, які перажывае так-званая Ліга Народаў, — гэта тое, што — замест стацца запраўды-ж саюзам Народаў—яна зьяўляецца адно толькі „Акцыйным Таварыствам“ групы буржуазных дзяржаваў. З гэтага вынікае і мэта яе: уладжываць адносіны паміж згуртаваўшыміся ў ёй дзяржавамі, падзяліўшымі паміж сабой цэлы рад так-званых „недзяржаўных“ народаў, паняволеных „дзяржаўнымі“.

Згода і мір паміж „акцыянерамі“ Лігі Народаў грунтуецца іменна на „справядлівым“ падзеле між імі зямель і душ „недзяржаўных“ народаў. І калі часамі здараецца, што адзін з гэных „акцыянераў“ абураецца на другога за ўціск „нацыянальных меншасьцяў“, дык пад гэтым заўсёды крыецца імкненьне нешта вытаргаваць сабе ад праштрафіўшагася калегі...

Вера ў тое, быццам Ліга Народаў, пабудаваная на падобных падставах, можа і хоча бараніць ад уціску „нацыянальныя меншасьці“,—гэта нешта зусім безнадзейнае. Безнадзейнай трэба прызнаць і спробу гэных „меншасьцяў“ шляхам лджаньня сваіх кангрэсаў у Жэнэве ці іншчэ недзе дабіцца ад Лігі Народаў абароны і апекі для сябе.

Мы падавалі ўжо весткі аб такім кангрэсе „нацыянальных меншасьцяў“, які толькі-што адбыўся ў Жэнэве — якраз напярэдадні адкрыцьця там Агульнага Сабраньня Лігі Народаў. Галоўнае дамаганьне, выстаўленае на гэным кангрэсе,— гэта так-званая культурна-нацыянальная аўтаномія для „меншасьцяў“, або права іх арганізавацца дзеля самастойнага вядзеньня ўсіх сваіх культурна-асьветных справаў—з дапамогай дзяржавы, да якой яны належаць.

На кангрэсе пераважалі так-званыя „экстэрыторыяльныя“ нацыянальнасьці,—знача такія, якія ня маюць сваей зямлі, на якой яны прадстаўляліб-бы большасьць. Гэта былі перадусім немцы з Польшчы, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Чэхаславакіі, Францыі, Італіі і інш., палякі—з Нямеччыны, Літвы, Латвіі, жыды—бадай з усіх дзяржаў Эўропы і г. д. Да таго ж усе гэныя нацыянальнасьці былі прадстаўлены сваей буржуазіяй, якая мае поўную свабоду эксплёатацыі працоўных масаў у гэных дзяржавах і адчувае адно толькі нацыянальны ўціск. Дык удзельнікі кангрэсу і маглі здаволіцца такой простай і вузкай разьвязкай нацыянальнага пытаньня.

Зусім інакш стаіць справа з нацыянальнасьцямі „тэрыторыяльнымі“, значыць такімі, якія папалі пад уладу чужога гаспадарства разам з сваей адвечнай зямлёй,—як беларусы, украінцы, літвіны пад Польшчай, як тыя-ж украінцы пад Румыніяй (ў Бэсарабіі), як баўгары пад Югаславіяй і г. д. Усе гэтыя народы датаго-ж складаюцца бадай выключна з элемэнтаў працоўных—сялян, работнікаў, працоўнае інтэлігенцыі. Усе яны з гэтае прычыны церпяць ня толькі нацыянальны ўціск, але і эканамічны, сацыяльны і, разумеецца, палітычны. Дык ясна, што іх нельга заспакоіць, даючы ім адно толькі права тварыць свае школы у роднай мове — на агульна-дзяржаўны кошт. Ясна, што тут справа ідзе і аб іх тэрыторыю, іх зямлю, і аб тое, каб на гэтай зямлі сяляне і работнікі маглі быць запраўднымі гаспадарамі, а не прыгнятымі пануючае над імі буржуазіі. — Ясна, што тут нацыянальнага пытаньня нельга вырашыць так, як вырашаюць яго„экстэрыторыяльныя“ нацыянальнасьці—ў асобе іх буржуазіі.

Дык ня дзіва, што прадстаўнікі беларусаў, украінцаў і літвіноў на кангрэсе ў Жэнэве не згадзіліся на тое становішча, якое было занята кангрэсам у адносінах да вырашэньня пытаньня аб „нацыянальных меншасьцях“. Ня дзіва, што яны адмовіліся ад супрацоўніцтва з кангрэсам, ня бачучы тут магчымасьці забясьпечыць інтарэсы сваіх народаў.

Але трэба адзначыць, што ані беларусы, ані ўкраінцы, ані літвіны ня мелі на кангрэсе правільнага свайго прадстаўніцтва. „Дэлегаты“ ад гэных нацыянальнасьцяў атрымалі свае мандаты ад маленечкіх групак сваіх палітычных прыяцеляў. — Дык ня дзіва, што, не апіраючыся на народныя масы, ня маючы падтрыманьня і мандатаў ад гэных масаў,—усе гэныя „дэлегаты“ пасьля сваей адмовы ад працы на кангрэсе не адважыліся зрабіць чародны крок, якога вымагала лёгіка і інтарэсы „тэрыторыяльных“ нацыянальнасьцяў.

Крок гэты—зусім ясны і напрашваецца сам сабой: „нацыянальныя меншасьці“, якія на сваей зямлі прадстаўляюць большасьць, мусяць аб'яднацца і зрабіць свой асобны кангрэс, на якім супольнымі сіламі абгавараць і вырашыць пытаньне аб тым, якім шляхам ісьці да зьдзейсьненьня свайго права на самавызначэньне, — права, якое адно толькі можа забясьпечыць тэрыторыяльным народам магчымасьць вольнага разьвіцьця іх нацыянальнасьці і здаваленьня сацыяльных і гаспадарчых патрэб і інтарэсаў.

Ініцыятыву ў гэтым кірунку павінны ўзяць на сябе не прыпадковыя і бездакзаныя „прадстаўнікі“, а масавыя арганізацыі, якія выяўляюць волю і моц беларускага працоўнага народу. Гэта—справа сьпешная, і да яе трэба падыйсьці з належнай уважлівасьцю.

## У Польшчы.

### Пагроза забастоўкі польскіх вуглякопаў.

Работнікі горнай прамысловасьці Верхняй Сілезіі, на чале з вуглякопамі, высунулі рад дамаганьняў, у справе якіх узьняўся канфлікт між імі і прамыслоўцамі. Першыя перагаворы не далі рэзультатаў. Варункі, запрапанаваныя прамыслоўцамі, былі рашуча адкінуты работнікамі. Другая канфэрэнцыя мела адбыцца ў аўторак. Кангрэс Радаў Горных Работнікаў, сабраўшыся ў Катавіцах, аднагалосна пастанавіў, што, калі да чацьвярга прамыслоўцы ня споўняць грэбаваньняў работнікаў, работнікі пачнуць забастоўку, якая мае ахапіць усю польскую Сілезію, а пэўна-ж перакінецца і далей.

Як сьцьвярджае „Głos Prawdy“, гаспадары капальняў прадаюць вугальле па цане, роўнай 300 проц. сабе кошту,—але ім і гэтага мала!

### Замест Станевіча—пасол Хоміньскі?

Газэты падаюць чуткі, быццам Клюб Працы, які іграе такую важную ролю у сучасным урадзе, нездаволены міністрам „рэформ рольных“ праф. Станевічам, які — „мала выраблены палітычна“. Дык на мейсца міністра „зямельных рэформ“ мае быць назначаны пасол з таго-ж клюбу п. Хоміньскі.

П. Хоміньскі — вельмі сымпатычны асабіста і лібэральна прыхільны ў адносінах да меншасьцяў чалавек,—але— буйны абшарнік, як і ўсе яго крэўныя. І ён мае — „прысьпешыць ліквідацыю польскага абшарніцтва на Крэсах“?! Не разумеем і таго, чаму гэта не падыйшоў пад курс „асадніцкага ўраду“ п. Станевіч?—Мы добра памятаем, як граміў п. Станевіч гэтае асадніцтва, пакуль быў прафэсарам; але, як толькі стаўся міністрам, дык пачаў пяяць асадніцтву гімны, дый рыхтаваць крэдыты... Дык ці-ж гэта недаспадобы „Клюбу — асадніцкай—Працы“ на Крэсах?!

### Зашмат аружжа ў Польшчы.

Вучань польскай школы ў Львове Дальскі застрэліў у сваей кватэры свайго калегу Бармана. Сьледзтва сцьвярдзіла неагляднае карыстаньне аружжам... Але, нажаль, не сьцьвярдзіла ня менш неагляднага азбраеньня польскай школьнай моладзі на „Крэсах“... Ад часу да часу вынікі гэтай пляновай „неаглядасьці“ даюцца ў знакі — ці то выбухамі бомбаў (як было ў Вільні!) ці драбнейшымі „выпадкамі“ забойства... Ці-ж у нашыя часы новага адраджэньня мілітарызму ў Польшчы гэтая сыстэма можа быць скасавана?!.

## Дадаткі п. п. афіцэрам і — зьмяншэньне дапамогі безработным.

Аднычасна з загадам марш. Пілсудскага аб падвышцы амаль не ўдвая пэнсіяў паном афіцэрам, „урад польскай дэмакратыі“ рашуча абрэзывае і без таго марныя дапамогі безработным. Калі на ўрад за гэта абурылася ўся работніцкая прэса, на абарону яго выступіла ўрадавая рэптылія „Глос Правды“. Гэта газэта пілсудчыкаў адважылася заявіць, што дапамогі для работнікаў — гэта-ж толькі „міласьціна для дармаедаў, якія нічога ня робяць“... Газэта страшэнна абурылася на „дэмагогію“ работніцкай прэсы, якая „аднолькава трактуе працаючага генарала і нічога ня робячага работніка“...

Праўду пішуць работніцкія газэты, што навет зробленая рэакцыйнай большасьцю польскага Сойму Канстытуцыя прызнае абавязак дзяржавы апекавацца безработнымі, якія не працуюць дый галадаюць не па сваей-жа-ж віне... Не разумее гэтага абавязку толькі „радыкальная польская інтэлігенцыя“, падтрымліваючая „ўрад працоўных генералаў“...

Нядаўна той-жа „Глос Правды“ страшэнна абураўся на дзяржаўных урадоўцаў за тое, што яны дамагаліся сабе так сама, як і афіцэрам (!), дадаткаў да пэнсіяў... Цяпер той-жа орган польскага „радыкалізму“ пакідае безработных на галодную сьмерць, каб толькі найболып з'эканоміць грошаў для „працуючых генералаў“... Маўчыць толькі аб тым, над чым працуюць гэтыя генералы, падрыхтоўваючы новы разьліў крыві на ўсім сьвеце. „Польска Збройна“, орган ваеннага міністэрства, ідзе іншчэ далей і адкрыта піша аб той „вялізарнай розьніцы, якая істнуе паміж ваенным і цывілем“...—„Жаўнер (ну, аб дадатках для жаўнераў пакуль што ня чуваць!) мае зусім іншыя абавязкі перад бацькаўшчынай, як дзяржаўны ўрадовец. Ён павінен быць гатовы памерці ў кожны мамэнт, калі дзяржава загада загадае ад яго. А яна жадае гэткай ахвяры толькі ад яго, а не ад іншых“...

Што ўсе гэтыя словы—чыстая брахня і крывадушнасьць, ясна ўсім, хто памятае, чым была апошняя вайна дый чым мае быць будучая. Кожнаму ясна, што на вайну гнаді ўсіх, увесь народ,— што ўсе „цывілі“ рабіліся жаўнерамі ды клалі сваё жыцьцё „за бацькаўшчыну“, ці правільней— за пануючую буржуазію... А што ў будучай хімічнай вайне дык якраз найгорш будзе цывілям, гэта ясна ўсім: паны афіцэры будуць мець усялякія прылады дзеля сваей аховы, а цывіляў дык будуць папросту труціць, як мух...

## Заграніцай.

### Пікантныя рэвэляцыі.

Амэрыканская прэса зьмяшчае цікаўныя рэвэляцыі аб тайным ваенным трактаце між Польшчай і Румыніяй. Нямецкая прэса называе гэты тайны трактат—„ваеннай змовай, скіраванай проці Нямеччыны, Расеі і Вэнгрыі“, дый пытаецца, як узгодніць гэткую змову з „духам Лёкарно“?!

### Цыганская рэспубліка ў СССР.

Радавы ўрад працуе над стварэньнем для цыганскага насяленьня ўласнай аўтаномнай тэрыторыі. Дзеля гэтага будзе склікаены агульны цыганскі зьезд. Рэспубліка мае быць на граніцы Бэсарабіі.

### Радавы флёт у Чорным моры.

З Балтыцкай эскадры СССР выйшлі ў Чорнае мора 18 ваенных караблёў радавага флёту.

### Літоўскі дэлегат аб Віленшчыне.

Літоўскі дэлегат у Лізе Народаў п. Сідзікаўскас заявіў, што Літва ў хуткім часе ізноў падыме ў Лізе справу звароту Літве Віленшчыны, без якой Літва разам з сваім портам Клайпэдай ня можа гаспадарча разьвівацца.

### Трыумф Нямеччыны ў Лізе Народаў.

8 верасьня адбылося з вялікім трыумфам прыняцьце Нямеччыны ў склад Лігі на сталае мейсца ў яе Радзе — на падставе аднагалоснага выбару яе. Пасьля гэтага—на другі дзень—прыехала ў Жэнэву нямецкая дэлегацыя, каб пры-

няць учасьце ў працах Агульнага Збору і Рады Лігі.

Як ведама, нямецкі ўрад згары заявіў, што ня вышле сваей дэлегацыі ў Жэнэву, пакуль ня будзе ўсё зроблена так, як ён дамагаецца: пакуль ня будзе першым чынам — перадусім — прынята Нямеччына і толькі яна адна ў склад Лігі і на сталае мейсца ў Радзе Лігі.

Гэтымі днямі маюць адбыцца выбары ўсіх дзевяцёх „нясталых“ сяброў Рады Лігі — ужо з учасьцем Нямеччыны. Ці будзе выбрана ў Раду Польшча—няма ведама. „На ўсякі выпадак“ польскі міністар Залескі адмовіўся ставіць сваю кандыдатуру ў розныя камісіі Лігі, пакуль ня вырашыцца пытаньне, ці Польшча ўвойдзе ў Раду Лігі на адно з нясталых мейсц, — як-быццам пагражаючы гэтак выхадам Польшчы з Лігі ў выпадку правалу на выбарах.

### Францускі дабрадзей аб польска-нямецкіх спорках.

У гутарцы з жэнэўскім карэспандэнтам аднэй з нямецкіх газэт Брыян заявіў паміж іншым: „Што датычыць Нямеччыны і Польшчы, дык я — тэй думкі, што адзіны спосаб вырашыць усе дзелючыя іх споры—гэта шлях беспасярэдняга паразуменьня“.

Як ведама, Нямеччына заўсёды высоўвала гэтую думку, лічучы толькі на свае ўласныя сілы. Але вось, Польшча заўсёды трэбавала „стану вынятковай аховы“ для сябе з боку „вялікіх“. Дык вось, трэба сцьвярдзіць, што гэтая польска-француская, ці „вэрсальская“ палітыка скончылася ўжо назаўсёды.

### Сэнсацыйныя чуткі.

У Парыжу зьявілася чутка аб тым, быццам, Гішпанія адступае свае правы на Марокко—Італіі. Францускія ўрадавыя колы рэзка запратэставалі.

Нашыя разважаньні аб „гішпанскай спадчыне“ штосьці залішне хутка пачалі спаўняцца. Справа ў тым, што канфэрэнцыяй у Альжэзірасе агульны пратэктарат над усім Мароккам быў прызнаны Францыі, а пасьля Францыя частку Марокко адступіла Гішпаніі.

### Ваенны бунт у Гішпаніі пашыраецца.

Ня гледзячы на ўсе меры і афіцыяльныя камунікаты гішпанскага ўраду, ваенны бунт у краі расьце. Гішпанскі флёт пастанавіў падтрымаць артылерыстаў, выступіўшы актыўна — з гарматамі сваіх браняносцаў—проці Прыма-дэ-Рывэры.

Амэрыканская газэта „Чыкаго Трыбуна“ піша, што дні дэ-Рывэры палічаны. На яго мейсца ўжо гатовы другі дыктатар, былы пасол пры папскім двары Магаз. Ведама-ж, што без дыктатараў гэткія дзяржавы абыйсьціся ня могуць. Ня выключана і тое, што гішпанскаму ўраду ў гэтых падзеях „памагаюць“ калегі — вялікія дзяржавы, а перадусім Англія, каб унутраным бунтам аслабіць апор Гішпаніі ў Лізе Народаў.

### Англійска-кітайская вайна ў Кантонскай акрузе.

Між кітайскімі вайскамі і англійскімі караблямі пачалася запраўдная вайна. Кітайцы захопліваюць англійскія кананеркі на рэчцы Ян-Тцэ, забіваючы іх каманду.

### Бунт кітайскіх работнікаў у Калькуце.

У Калькуце (вялікае места ў англійскай Індыі) вялікія масы кітайскіх работнікаў, страшэнна вызысківаных англійцамі, пачалі забастоўку. Англійскія ўлады — пад пагрозай расстрэлаў — прыказалі спыніць забастоўку. Тады справакаваныя работнікі пачалі быццам абстрэліваць чужаземныя караблі (?). А тады, ведама, англійскі флёт высадзіў матросаў, якія „ўсьмірылі“ работнікаў. Сколькі пры гэтым забіта работнікаў, англійцы ня пішуць.

---

## З жыцьця „Грамады“.

## Павятовыя Зьезды Б.С.Р. Грамады.

**Цэнтральны Сэкрэтарыят Грамады, арганізоўваючы Павятовыя Зьезды сяброў Гамады, устанавіў гэткі парадак:**

1) 16./IX. **Зьезд Косаўскага пав., у Косаве.**

**2 і 3)** 19./IX. **маюць адбыцца Павятовыя Зьезды ў Горадні — Горадзенскага пав., і ў Стоўпцах—Стаўпецкага пав.**

**4 і 5)** 26./IX. **маюць адбыцца Павятовыя Зьезды ў Лідзе—Лідскага пав. і ў Слоніме—Слонімскага павету.**

6) 3./X. **Зьезд Наваградзкага пав. — у Наваградку.**

7) 10./X. **вызначаны зьезд Маладэчанск. пав.**

Аб усялякай перамене, калі-б выявілася якая патрэба перамены гэтага раскладу зьездаў,—будзе апублікавана ў газэце загадзя.

Адрэсы памешканьняў, у якіх адбудуцца зьезды, будуць ступнёва падавацца ў газэце „Народная Справа“.

На Павятовых Зьездах могуць быць прысутнымі толькі сябры Грамады, маючыя партыйныя білеты. Госьці „па запросінах“ дапускацца ў салю Зьезду ня будуць.

### Зьезд Косаўскага павету.

Зьезд сяброў Грамады Косаўскага павету адбудзецца ў чацьвер 16-га верасьня сёл. году а 10 гадз. ў м. Косаве ў нова-будаваным доме жыдоўскае школы пры вул. Касьцюшкі.

Дапушчаны на Зьезд будуць толькі сябры Грамады Косаўскага пав., маючыя на руках партыйныя білеты Грамады.

*Цэнтр. Сэкрэт. Грамады.*

### Аб сабраньнях Грамады на мяйсцох.

У справах сабраньняў Гурткоў трэба абавязкава кіравацца выясьненьнямі, зьмешчанымі ў §§ 4 і 6 Цыркуляра № 1 Цэнтр. Сэкр. Грамады.

Заўсёды перад сабраньнем за 3, а то яшчэ лепш за дзён 5 трэба выслаць па пошце заказным лістом Паведамленьне Павятоваму Старасьце аб маючым адбыцца партыйным сабраньні Гуртка Грамады. Паштовую квітанцыю разам з копіяй высланага Паведамленьня трэба мець арганізатару сабраньня пры сабе ў часе засяданьня Гуртка.

Высылаць Паведамленьне на адрэс Старасты трэба толькі тады, калі мяйсцовы пастарунак паліцыі адмаўляецца ў прыняцьці ад Гуртка Паведамленьня на імя Старасты.

З прычыны рэпрэсіяў з боку паліцыі на мясйсцох, аб чым ужо даходзяць да нас весткі, трэба, каб навет на арганізацыйных сабраньнях Грамады ўсе прысутныя ўжо мелі-б партыйныя білеты.

Аб арганізацыйных, як і аб звычайных сабраньнях Гурткоў Грамады, заўсёды трэба паведамляць Старасту, а не прасіць у яго дазволу, як яшчэ ў некаторых глухіх куткох практыкуецца.

*Цэнтральны Сэкрэтарыят Грамады.*

### Да ведама сяброў Грамады Вялейскага павету.

Вялейскі Павятовы Камітэт Беларускае Сялян.-Работ. Грамады месьціцца ў Вялейцы—павятовай, вул. Д.-Бярнацкага, № 2. У справах арганізацыйных і справах узносу складак сяброўскіх, а таксама па літэратуру партыйную трэба ўсім Камітэтам Гурткоў, а таксама паасобным сябром, дзе яшчэ не заснаваліся Гурткі, зьвяртацца па вышэйпададзенаму адрэсу.

### НОВЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ.

У ніжэйпаданых мяйсцовасьцях з'арганізаваліся новыя Гурткі і выбраны Камітэты Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады:

261. 15./VIII. у в. **Рапковічы**, Вальнянскае гм., Баранавіцкага пав.
262. 15./VIII. у в. **Гліняны**, Скідэльскае гм., Горадзенскага пав.
263. 15./VIII. у в. **Мялешкі**, Гарадоцкае гм., Беластоцкага пав.
264. 14./VIII. у в. **Сакалова**, Чамерскае гм., Слонімскага пав.
265. 14./VIII. у в. **Случанка**, Гарадоцкае гм., Беластоцкага пав.
266. 15./VIII. у в **Пяньні**, Гарадоцкае гм., Беластоцкага пав.
267. 1./VIII. у в. **Буцьні**, Ражанскае гм., Косаўскага павету.
268. 13./VIII. у в. **Урочы**, Дзявяткаўскае гм., Слонімскага пав.
269. 15./VIII. у в. **Хвалава**, Сухапольскае гм. Пружанскага пав.
270. 19./VIII. у в. **Задворані**, Пададоскае гм., Ваўкавыскага пав.
271. 17.VIII. у в. **Загора**, Карэліцкае гм. Наваградзкага пав.
272. 17./VIII. у в. **Русінаўцы**, Скідэльскае гм., Горадзенскага пав.
273. 10./VIII. у в. **Станкоўцы**, Роскае гм., Ваўкавыскага пав.
274. 10./VIII. у в. **Пасінічы**, Міжэвіцкае гм., Слонімскага пав.
275. 19./VIII. у в. **Дубна**, Дубенскае гм., Горадзенскага пав.
276. 10./VIII. у в. **Рэўні**, Скідэльскае гм., Горадзенскага пав.
277. 7./VIII. у в. **Няцечы**, Лашскае гм., Горадзенскага павету.
278. 9./VIII. у в. **Пілюні**, Верцялішскае гм., Горадзенскага пав.
279. 15./VIII. у в. **Каранейчы**, Горніцкае гм., Горадзенскага пав.
280. 20./VIII. у в. **Дарошавічы**, Лашскае гм., Горадзенскага пав.
281. 8./VIII. у в. **Застарыня**, Пачапаўскае гм., Наваградзкага пав.
282. 1./VIII. у в. **Чыжынаўцы**, Ярэміцкае гм., Стаўпецкага пав.
283. 1./VIII. у в. **Маласельцы**, Ярэміцкае гм., Стаўпецкага пав.
284. 19./VIII. у м. **Сьвіслачы**, Ваўкавыскага павету.
285. 15./VIII. у в. **Дарані**, Пададоскае гм., Ваўкавыскага пав.
286. 2./VIII. у в. **Міхалоўшчына**, Альшанскае гм., Ашмянскага пав.
287. 8./VIII. у в. **Лышчыцы**, Азёрскае гм., Горадзенскага пав.
288. 12./VIII. у в. **Гарбуны**, Шаркаўскае гм., Дзісьненскага пав.
289. 15./VIII. у в. **Рушчаны**, Харашчанскае гм., Беластоцкага пав.

**Камітэты Гурткоў працуюць што-дня.**

---

# ХРОНІКА.

**Да сьвяткаваньня юбілею беларускае прэсы.** Нас паведамляюць, што ладжанае Беларускім Нацыянальным Камітэтам сьвяткаваньне 20-лецьця нарадзінаў беларускае прэсы, якое было сьпярша вызначана на 19-га верасьня, адбудзецца ў суботу 18-га верасьня ў 6 гадз. папалудні ў памяшчэньні Камітэту—Віленская 12, кв. 6.

Праграма абходу будзе складацца з рэфэрату грам. А. Луцкевіча аб нарадзінах, гісторыі разьвіцьця беларускае прэсы і аб значэньні яе ў беларускім адраджэнскім руху,—а таксама з прамоваў запрошаных прадстаўнікоў грамадзянства і прэсы ўсіх нацыянальнасьцяў краю.

Уваход на сьвяткаваньне—толькі на падставе спэцыяльных іменных запросінаў.

**Недарод у Ашмяншчыне.** Жыта неўрадзіла. Замест 10—12 коп (60 — 70 пудоў з гэктара), як заўсёды бывала, сёлета зьбіралі толькі 5 — 6 коп (20—25 пудоў) з гэктара. Блага ўрадзіў авёс; у іншых мясцох зусім іржа яго пабіла. Сяляне ўжо цяпер выводзяць на скаціну і каней.

**Да спагону падаткаў у зямляробаў.** Згодна з апошняй інструкцыяй аб прымусовым спагоне падаткаў—прадажы апісаных рэчаў у гаспадароў ня можа быць у працягу 4 х тыдняў у часе жніва. Але дзеля таго, што ў 2-й палове верасьня зямляробы заняты прыгатаваньнем збожжа на продажу, міністэрства фінансаў асобным цыркулярам загадала, каб у зямляробаў прымусовы спагон падаткаў пачаць не раней канца верасьня. Але гэтая палёгка не адносіцца да тых, што наўмысьля адцягаваюць плату падаткаў.

Ну, ведама: калі селянін прыпозьніцца з платай, дык заўсёды ў яго ўсё будзе „наўмысьля“. Адны толькі абшарнікі скарыстаюць з гэтае палёгкі!

**Чужаземцы і вайсковая павіннасьць.** Згодна з новымі правіламі, чужаземцаў могуць прымаць у польскае войска, як ахвотнікаў, толькі з дазволу прэзыдэнта Рэспублікі.

**Развал павлюкевічаўскае „Рады“.** Адзіны, здаецца, чалавек з чыстымі рукамі, які дагэтуль неяк яшчэ не адважаўся пакінуць павлюкевічаўскую „Раду“, ведамы пісьменьнік і драматычны артыст Францішак Аляхновіч, апублікаваў надовячы ў газэце „Kur. Wil.“ пісьмо, абвяшчаючы, што выходзе з складу „Рады“ і нічога супольнага надалей з гэтай арганізацыяй мець ня будзе.

Трэба адзначыць, што грам. Аляхновіч быў дагэтуль у „Радзе“ высокай асобай, бо аж... віцэ-старшынёй яе! Аднак, „доктар“ Павлюкевіч, відаць, ня веручы ў „палітычныя кваліфікацыі“ свайго афіцыяльнага заступніка (— запраўды-ж: што тут была за роль... для артыста?!), рабіў усё на сваю руку, ды навет бяз ведама яго выпусьціў самавольна ад імя „Рады“ сваю знамянітую „адозву“ ў чыста дэфэнзыўным духу.

Ня першы гэта раз разваліваецца павлюкевічаўская „Рада“,—але, пакуль ёсьць „шчодрыя хлебадаўцы“, Павлюкевіч яе ўзнаўляе і мусіць узновіць і цяпер.

**Дарэмныя патугі Павлюкевіча.** Паведамляюць нас з правінцыі, што Павлюкевіч з Вільні рассылае па адрэсох гурткоў Грамады, якія апублікоўваюцца ў газэце „Народная Справа“, свае адозвы ад імя т. зв. „Беларускай Рады“, у якіх пужае людзей, каб яны ня ўпісываліся ў Грамаду. Адозвы свае шлець гэны пан цэлымі пачкамі; відаць, што на гэтыя рэчы ён мае ад сваіх хлебадаўцаў нямала грошай.

Што-ж робяць з гэтымі адозвамі Гурткі Грамады? У большасьці выпадкаў рвуць і то на рынках, наўмысьня на вачох сабранага натоўпу людзей, а то былі выпадкі, што ўрачыста на ўзгорку паляць гэтыя павлюкевічаўскія адозвы.

Калі ж урэшце Павлюкевіч спыніць сваю нікому непатрэбную і бесталковую працу?

**Разьясьненьне.** У газэце „Народная Справа“ часткамі друкуецца каталёг Беларускага Выдавецкага Т-ва.

Пад аддзеламі I—А, II—А, і г. д. зьмешчаны тыя кнігі, якія маюцца ў прадажы ў Беларускай Кнігарні Беларускага Выдавецкага Т-ва (Вострабрамская 1). Пад аддзеламі I—Б, II—Б і г. д. зьмешчаны кнігі, што выданы ў Менску і ў Беларускай Кнігарні ў Вільні ў прадажы іх пакуль што яшчэ няма.

Робяцца адпаведныя заходы, каб гэтыя кнігі выпісаць у Кнігарню і прадаваць у Польшчы. А пакуль што падаем адрэс, па якім можна выпісваць кнігі з Менску: Цэнтральны Кніжны Склад —Менск, Ленінская, 19. Цэны ў каталёзе паказаны ў рублёх. Выпісваць кніжкі з-за граніцы па адным экзэмпляру мае права кожым грамадзянін.

Тыя-ж грамадзяне, якія ўжо прыслалі грошы ў Белар. Кнігарню ў Вільні на кнігі, выданыя ў Менску, няхай павядомяць Кнігарню, што зрабіць з грашыма: ці вярнуць назад ці на гэтыя грошы выслаць тыя кнігі, якія ёсьць у Кнігарні.

**Афіцыяльны курс грошы на 10-га верасьня.** Даляр—8 зл. 94 гр. Залаты рубель — 4 зл. 61 гр.

10. IX. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 8,90. Зал. руб. 4,40. Чырвонец 44.

---

Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!

# Агульны сход т-ва беларускае школы.

У сераду, 8 верасьня, адбыўся агульны сход Т-ва дзеля перавыбараў Гялоўнае Управы і Наглядпае Рады—згодна з вымогамі нова зацьверджанага статуту. На парадку дня стаялі також бягучыя справы, і гэты пункт запоўніла справаздача дэлегацыі (ў складзе: Р. Астроўскі і А. Трэпка), езьдзіўшае ў Варшаву да прэм'ера і да міністра асьветы—ад імя Т-ва.

З справаздачы выясьніліся дужа ярка адносіны ўраду „маральнае санацыі“ да меншасьцяў у Польшчы наагул, бо-ж беларусы выступалі ў прэм'ера разам з дэлегатамі ад жыдоў і літвіноў. Апошні факт ужо сам па сабе вельмі „знэрваваў“ пана Бартля, і ён прыняў дэлегатаў вельмі няпрыхільна, у рэзкай форме заявіўшы, што школьныя справы беларусаў, жыдоў і літвіноў — лішне розныя, каб іх супольна разглядаць і вырашаць. У адказ на гэта дэлегаты заявілі, што, аднак-жа, у ўсіх трох нацыянальнасьцяў істнуюць **супольныя балячкі, зьвязаныя з агульнай палітыкай ураду**, і аб гэтых балячках яны і прыйшлі гаварыць. Выслухаўшы дамаганьні дэлегацыяў аб патрэбе завясьці спэцыяльныя аддзелы для меншасьцяў у міністэрстве асьветы і прадстаўнікоў усіх нацыянальнасьцяў у куратарыумах Зах. Беларусі, — аб адкрыцьці пачаткавых школ у беларускай, жыдоўскай і літоўскай мовах на дзяржаўны кошт, аб правох сярэдніх школ—для вучняў і вучыцялеў—і г. д., пан Бартэль нічога памыснага не адказаў, а толькі абяцаў „паканфэраваць“ аб закранутых справах з міністрам асьветы....

Асабліва няпрыхільныя адносіны былі да жыдоў: пачуўшы дамаганьне, каб у жыдоўскіх пачаткавых школах навука адбывалася-бы пажыдоўску, пан Бартэль з іроніяй заявіў: „А жыдоўскага ўнівэрсытэту не дамагаецеся?“—на што прадстаўнік жыдоў з поўным спакоем адказаў: „Пакульшто йшчэ не!“

Ня менш цяжкое ўражаньне вынесла дэлегацыя і з гутаркі з міністрам асьветы Суйковскім, які напярэдадні быў прыняў беларусаў і на ўсе дамаганьні адносна да беларускіх школаў адказваў, што ён нічога ня можа, хоць-бы і хацеў... А назаўтрае, калі ў назначаны перш самым-жа міністрам час да яго зьявіліся дэлегаты жыдоў і літвіноў, п. Суйковскі неўспадзеўкі зусім адмовіўся прыняць іх....

Характэрную інфармацыю аб адносінах новага ўраду да беларусаў і іх дамаганьняў даў прысутны на сходзе пасол Валошын. Паводле ягоных слоў, ураз-жа пасьля маёвага перавароту да п. Бартля пайшлі паслы Ярэміч і Рагуля. Прэм'ер прыняў іх так „міла“, што ў выніку гэтага, як ужо ведама нашым чытачам, зьявіліся стацьці ў „Сялянскай Ніве“, поўныя надзеі на дабрадзействы польскае дэмакратыі... Паміж іншым п. Бартэль прасіў названых паслоў, каб крыху пазьней, як ужо ўмацуецца новы ўрад, прыйшлі да яго ізноў з канкрэтнымі дамаганьнямі. „Тады—казаў прэм'ер—я вам скажу: гэта будзе споўнена, аб гэтым падумаем, а гэнага зрабіць ня можам“.. Вось-жа, калі паслы пайшлі да пана Бартля другі раз, урад аказаўся ўжо настолькі ўзмацаваўшымся, што прэм'ер папросту не захацеў з імі і гаварыць, ды іх ня прыняў...

Агульны сход сяброў Т-ва Беларускае Школы, выслухаўшы справаздачу сваіх дэлегатаў (грам. Астроўскага і Трэпкі), прыняў гэткую рэзалюцыю:

„Прымаючы да ведама даклад дэлегацыі, езьдзіўшае ад імя Таварыства Беларускае Школы да прэм'ера Бартля і міністра асьветы Суйковскага.—Агульны Сход Т-ва сцьвярджае, што ў дадзены мамэнт кіруючыя ўрадавыя сфэры не выяўляюць жаданьня палепшыць несьцярпімае палажэньне беларускага школьніцтва. Сход пратэстуе проці дэманстрацыйнага нежаданьня Ураду ня толькі здаволіць слушныя дамаганьні беларусаў, але і паважна падыйсьці да разьвязаньня даўно насьпеўшага пытаньня аб беларускай дзяржаўнай школе.—Сход пастанаўляе — у сувязі з выясьніўшымся палажэньнем —зьвярнуць асаблівую ўвагу на арганізацыйную працу ў справе прыватнага школьніцтва і выкананьне гэтага даручае Галоўнай Управе Т-ва. —Гэтую сваю рэзалюцыю Сход пастанаўляе падаць да ведама беларускага парляманцкага прадстаўніцтва з просьбай учыніць з свайго боку адпаведныя крокі“.

На сходзе адбыліся перавыбары Галоўнае Управы, у выніку якіх аказаліся выбранымі: старшыня--Р. Астроўскі, віцэ старшыні —сэнатар Уласаў і А. Трэпка, скарбнік — М. Кепэль, заступнік яго—М. Сіняўскі, сэкрэтар — Я. Шнаркевіч, заст. яго—М. Марцінчык, сябры—Ф. Стэцкевіч, Ул. Лукашэвіч, Марыя Шавель, пасол Бр. Тарашкевіч, І. Дварчаніа. Кандыдаты: А. Мацейчык, А. Коўш. І. Савіцкі, Паўліна Мятла.

У Наглядную Раду выбраны: пасол Рак-Міхайлоўскі, Ул. Самойла, Ф. Акінчыц, К. Крук, С. Астапчык.

# Хто-ж з нас „камуніст“?

Мы ведаем, што „Беларуская Крыніца“ першая спасярод недэфэнзыўных часопісаў „мела цывільную адвагу“—„назваць сваімі імёнамі ўсе напрамкі беларускага руху ў Заходняй Беларусі. Адны з іх назвала „камуністычнымі“, другія—„камунізуючымі“ і так далей... Словам—ўсё і ўсіх у беларускім руху паставіла на адпаведнае мейсца—так, каб было ўсім відаць адразу. Мы памятаем, як ухапіўся тады, пасьля гэтага „інфармуючага“ артыкулу „Бел. Крыніцы“, за яе „клясыфікацыю“ п. Павлюкевіч.—„Бачыце, бачыце!—мы-ж заўсёды гэта казалі, яшчэ значна раней!“—захопліваючыся паўтарала тады „Белар. Слова“.

З лёгкай рукі „Белар. Крыніцы“ і яе малодшая сястрычка „Сялянская Ніва“ так сама пачала кідацца „камуністамі“ ды „камунізуючымі“ на ўсе бакі—на вялікае здаваленьне розных афіцыяльных наглядчыкаў беларускага жыцьця ў Польшчы.

Але-ж, ведама,—калі вельмі трудна правясьці рэзкую мяжу між „камуністамі“ і „камунізуючымі“, а „камунізуючым“ можна назваць кожнага, хто каму нямілы,—дык запраўды-ж—ня менш трудна разабрацца, хто з беларусаў, апрача „доктара“ Павлюкевіча, „камуніст“, а хто—не. І ў выніку гэтага тое, што ўвяла ў „звычаі беларускай прэсы“ „Белар. Крыніца“, абярнулася толькі ў „палемічны прыём“, якім той ці іншы, слаба азброены для запраўднай палемікі аўтар, выражае сваё „злоснае бяссільле“.

Але, можа, найцікаўнайшай, іроніяй лёсу — зьяўляецца тое, што тыя-ж самыя беларускія ксяндзы, якія так „навукова“ апрацоўвалі „клясыфікацыю“ беларускіх палітычных напрамкаў, самі папалі ў тую самую „сям'ю камуністаў“, у якую яны садзілі „Беларускую Грамаду“ і іншых.

У № 196 „Дзен. Віл.“ няўдзячны п. Обст вось што піша аб беларускіх ксяндзох, якія выдаюць ды рэдагуюць „Бел. Крыніцу“, і аб іх „клясіфікацыі“.

„Мы тутака, бліжэй знаёмыя з мясцовымі адносінамі, ведаем добра, што **абодва напрамкі** (беларускага руху) **выплываюць з аднэй-адзінай крыніцы—маскоўска-бальшавіцкай** і імкнуцца да аднэй мэты, назоў якой: **СССР**... Мы ведаем, што большасьць беларускіх ксяндзоў,—гэта-ж папросту **апранутыя ў сутаны бальшавіцкія агітатары**, якія карыстаюцца амбонай і спавядальняй для сваей праступнай агітацыі... Розьняцца яны толькі сваей тактыкай ад грамады сваіх калегаў—радавых агентаў, якія цягаюцца па вёсках і мястэчках“...

Далей ідуць у даўжэйшым артыкуле п. І. О. цытаты з „Крыніцы“, якія маюць даказаць бясспрэчна „камуністычную“ ці „бальшавіцкую“ прыроду беларускіх „хадэкаў“ з паважаным кс. Станкевічам на чале...

Дык хто-ж запраўды ў Заходняй Беларусі—„камуніст“, а хто „камунізуючы“, а хто—„бальшавіцкі агент“?

# Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

Ніжэйпадпісаныя, ня маючы іншай магчымасьці атрымаць ад п. Арсенія Павлюкевіча, старшыні Беларускай Нацыянальнай Рады, сваю належнасьць, якая ёсьць рэзультатам скліканага п. Павлюкевічам 27 і 28 чэрвеня г. г. беларускага зьезду, гэтым пісьмом у Рэдакцыю Вашай часопісі хочуць зрабіць на п. Павлюкевіча маральны націск, каб той заплаціў старыя рахункі, або прынамсь хочуць гэтым шляхам парушыць тых, ад якіх п. П. залежыць матэрыяльна, каб уплынулі на яго ў гэтым напрамку.

Подпісы даўжнікоў:

**Селявко** (Рэстаран пры Эўрапэйскім готэлю) за абеды для дэлегатаў на зьезд.

**І. Залкінд** (Готэль „Паляс“) за памешканьне, у якім адбываліся паседжаньні зьезду.

**Ул. Знамяроўскі** за друк 5-ёх нумароў „Беларускага Слова“.

**З. Левін** (готэль „Італія“), **Рафальскі** (готэль „Кракаўскі“); **І. Залкінд** (готэль „Паляс“), **Лейкін** (готэль „Літоўскі“), **М. Пржылэнскі** (готэль „Сакалоўскага“) за кватэры, нанятыя для дэлегатаў зьеду.

Вільня, 6. IX. 1926.

Дадаткова нас інфармуюць, што „Зьезд“ Паўлюкевіча застаўся вінен:

Знамяроўскаму 554 зл., Готэл „Сакалоўскага“—500 зл., „Паляс“ Залкінда—295 зл., „Італія“—38 зл. „Літоўскі“—34 зл., „Кракоўскі“—96 зл.

Артыстам, якія адыгралі „Птушку шчасьця“ ў апошні дзень Зьезду, не заплачана—120 зл.

Разам — 1637 злот., якія... наперад дастаў з „дыспозыцыйных сум“!

Апошнія часы не заплаціў також нікому з супрацоўнікаў сваей дэфэнзыўнай газэты „Белар. Слова“.

За „Адозву да беларускага народу“ ад імя „Бел. Нац. Рады“, скіраваную проці Грамады, атрымаў ад сваіх „хлебадаўцаў“ 1000 злотых....



# З жыцьця Горадні.

× **З крыміналістаў дый у пэпээсы.** Усе працоўныя вельмі добра ведаюць аб гэтай банкрутуючай партыі ППС. (Polskiej Partji Socjalistycznej), як яна „бароніць“ інтарэсы працоўных, да чаго яна імкнецца. Сябрам гэнай партыі можа быць кожны „і цюха і мацюха“. Вось, я і хачу падаць прыклад „вербаваньня“ сяброў у гэную ППС.

Служыў быў тутака на „kresach“ у „urzędzie“ нейкі галічанін Шварц, які ніколі палітыкай незаймаўся і ня ведаў, з чым яе ядуць. Папаўшы ў горадзенскі вастрог за крымінальныя справы, ён зьнюхаўся з сэкрэтаром горадзенскага камітэту П.П.С. Ганэркай, які разам сядзеў з ім у вадной камэры і з якім спаў на адных нарах пад аднэй коўдрай. Часта яны ўночы пры сьвятле маладзіка, які кідаў свае праменьні ў гэную камэру, шушукаліся між сабой: гэта Гонэрка вербаваў у сябры сваей партыі Шварца. Пасьля доўгага хістаньня згодзіўся Шварц быць „члонкам“ гэтай партыі. Дык вось у адзін пекны дзень перад Шварцам з трэскам адчыніліся дзьверы, якія дагэтуль аддзялялі яго ад шумнага міра, і ён явіўся да сэкрэтара ППС—Ганэркі.

Ганэрко выпаўняе паміж іншым абавязкі сэкрэтара Рады Прафэсіянальных Саюзаў у Горадні. Вось ён і даў Шварцу „chwilowo“ працу ў камітэце ППС., кажучы яму, што па першым дасьць лепшае месца -- сэкрэтара якога небудзь саюзу (Ганэко наш, як хірамант Павлюкевіч, прадбачыў, што першага мая не абойдзецца без „дэфэктаў“), а сусьветнае сьвята працоўных зьбліжалася. Сьвядомыя работнікі разам з сваімі змагарамі выдалі ад імя лявіцы клясавых прафэсіянальных саюзаў у Горадні адкрыты ліст у беларускай, польскай і жыдоўскай мове, клічучы ўсіх працоўных сьвяткаваць першага мая, ганьбячы і клеймячы пэпэсаўскую палітыку, якую гэная партыя вядзець у прафэсіянальных саюзах. Паводле Ганэркінага прадказаньня так і сталася: пасыпаліся рэпрэсіі і арышты на лявіцу, у тым ліку не абмінулі і сябру Б.С.Р.Г. Мікалая Якімовіча, які ў той час займаў месца сэкрэтара прафэсіянальнага саюзу дазорцаў. Па арышце Якімовіча камітэт ППС проці волі большасьці сяброў гэнага саюзу ўсадзіў на вольнае месца Шварца, які з тых пор абняў цалком кіраўніцтва над саюзам.

Шварц так пакіраваў гэтым саюзам, што вывяў яго на крывую дарожку. Грошы сяброў зьбіраець, а за памяшчэньне, у якім знаходзіцца саюз, не заплочана ўжо за тры месяцы, і гаспадар памяшчэньня хоча ўжо высяліць, а пакуль ня ўзяў кіраўніцтва Шварц, было выплачвана рэгулярна.

Няхай гэты факт будзе перасьцярогай для другіх саюзаў, каб сьцерагліся пэпээсаў!

**Молат.**

# Карэспандэнцыі.

## Як у нас жывецца.

(З Мядзёльскае гм., Пастаўскага пав.).

Чытаем у газэтах, што на нашых „крэсах“ усюды благое жыцьцё. У нас-жа ў Мядзёльшчыне ўсё добра, усё чыста-гладка, як бы й ня трэба ляпей. Бываець часамі — кіраўнік Мядзёльскага пастарунку п. Міроўскі забярэ з кірмашу выпіўшых, а то й зусім цьвярозых людзей на пастарунак, напіша пратакол, наложыць ім кайданы, ды марш у Дунілавічы да сьледаваццеля, а той папытаецца: за што і як?—ды скажа: — марш дамоў. І маршыруюць людзі па 35 км., у адзін дый другі бок, як-бы работы ня меўшы—у рабочую пару. (Гісторыя з Лапцікам, Зьвяругай і друг.).

Гэтак жывецца ў галіне публічнае „бясьпечнасьці“. Ня лепш выглядае ў нас і асьвета. Беларускай школы на ўсім абшары Мядзельскае гміны (болей за 15.000 душ насяленьня) ніводнае няма. За тое польскіх — даволі! У м. Мядзёле ў сёлетнім годзе адчыняецца ажно 7-мёх клясоўка, у якую будуць зганяць з бліжэйшых вёсак старэйшых за 10 гадоў вучняў. Ведама ўжо, што Пастаўскі інспэктар з восені сёл. г. адчыняець у в. Навасёлках кантрактовую школу (3 км. ад Мядзела) толькі з І аддзелам, у якой вучняў каля 70, значыць большая палова мусіць хадзіць у Мядзел, бо толькі ў Мядзельскай школе можна атрымаць усебаковую адукацыю: вучыцель Кялер вучыць пяяць рамансы, а калі дзяўына маець гадоў 15—16, ды яшчэ з твару нічога сабе, дык хто-ж яму забароніць пацягацца за ёй, а вучаніца не асьмеліцца праганяць вучыцеля ад сябе. У мястэчку ходзяць розныя легэнды аб вучыцелю і вучаніцы, а мо і не легэнды?

Гэта я сарваў толькі два лісточкі з Мядзельскай краскі-жыцьця. Дык, каб палепшыць сваё жыцьцё, абараніць сябе ад усялякіх самавольцаў, пішыцеся, грамадзяне, у партыю Беларускае Сял.-Работ. Грамады, бо толькі грамадой мы зможам павясьці барацьбу з крыўдай, якую мы адчуваем на кожным кроку.

**Мядзёлец.**

## „Сумныя казкі“.

(З Дзісеншчыны).

Некалі людцы, жартуючы пра паэтаў і пісьменьнікаў, казалі, што ёсьць і дагэтуль тып паэтаў, якія як начнуць апісываць ня толькі пры-

роду, сонейка, салавейку, а нат' рэчы бяздушныя, —дык людзі ня могуць утрымацца ад сьлёз. Гэнымі паэтамі былі тады судовыя каморнікі (інакш: прыставы). Цяперака гэтакіх паэтаў цэлыя хмары, —а апісываюць яны ўсё гэтак, што пасьля іхніх „вершаў“ у хаце не застаецца нічога. Ідуць у „вершы“ і коні, і каровы, і хатняя худоба, і куры, і парасяткі, і кажухі, і боты і апошнія нагавіцы. І ня толькі плачуць людцы, а раўмя-равуць і старыя і малыя. Гэтак усіх праймаюць гэтыя „вершы“, ды больш за скуру...

Ужо колькі месяцаў мае гэтакіх „пісьменьнікаў“ і Прazaроцкая гміна. І трэба сказаць, што гэтыя „паэты“—Шышка і Саматкоўскі (якіх прыслаў на нашыя скуры павятовы соймік), „пішуць“ ад раніцы да вечара,—ажна пот льецца па твару. Абяцаныя ўрадам палёгкі схаваліся недзе за печ, дык паны сэквэстратары гаспадаруюць, як у сваей хаце. Нічога не памагае—ні просьба, ні слёзы, — усё з хаты ідзе ў „вершы“—(сэквэстрацыйны пратакол).

Справа йдзе проста і хутка: заходзіць пан „пісьменьнік“ у хату, расхіляе свой партфэль, бярэ алавік у рукі і давай чаканіць: „budynkowe, lokalowe, składka ogniowa, odsetki“—разам гэтулькі —„proszę płacić“. Гаспадар стаіць, як-бы апшараны: нічога ён не зразумеў, дый ніякіх паведамленьняў не атрымліваў (бо ніякіх „наказаў“ на гэтыя падаткі ніхто ў нас не атрымліваў!). Іншы можа і падрыхтаваўся-б, але-ж аб падатку даведываецца толькі ад пана „пісьменьніка“. Ведама, грошы ў гаспадара няма,—дык тады алавік яшчэ хутчэй лятае па пратаколу, і ідуць—карова за 20 зл., гадавы парсюк за 10 зл., кажух за 5 зл. і г. д.

Гэтак у траўні, на кірмашы ў Прazaроках, „вялікія паэты“ прадалі з ліцытацыі гадовага парсюка жыхаркі в. Булахі за 9 зл. Вядома, ніхто з сялян ня купляе людзкіх сьлёз, дык парсюка купіў празароцкі растараншчык — „swój człowiek“ (каб і цябе, панок, спаткаў калі лёс беднае сялянкі!).

У дачкі нябошчыка І. Буйніцкага, у Прazaроках, гэтыя-ж „пісьменьнікі“ за 14 зл. падатку забралі футру, якая каштуе мала-мала 200 зл. Але ўсяго і не апішаш, — бо трэба было-б пісаць цэлую біблію.

Цікава толькі, што фальваркі і маёнткі „нашыя героі“ абмінаюць, ня гледзячы на тое, што залеглаcьцяў тамака ў сотні разоў больш, як на вёсках. Ну — тамака істнуюць урадавыя палёгкі, якіх да простага „быдла“ можна і не тасаваць.

Толькі, паночкі, трэба памятаць, што гэтае „быдла“ вас корміць, поіць, адзяець і... што яно мае рогі! **Нядоля.**

## „Кракадылявы сьлёзы“.

(двор Панізьзе, Беніца, Маладэчанскага пав.).

Наш „знамяніты“ пан-абшарнік з маёнтку Панізьзе, Беніцкае вол., заслужыў славу Гэрастрата і апінію „cnotliwego człowieka“. Паважаныя чытачы, пераканаецеся ў ягонай цнотлівосьці, у дабрачынасьцях Самараніна — Антона Аганоўскага.

У полі прапаў ягоны бык, а вядомая рэч, што баліць за прапажу галава пастыру. Пан запрасіў далікатна „далікатных“ пастарунковых пашчупаць бакі, скабы і сьпіну пастуха. Праўда, тыя з свайго боку добра „шчупалі“, бо змусілі легчы ў бальніцу. Ажно выявілася, што бык апрогся і ляжыць на вечным адпачынку, задраўшы ногі да неба.

Чарвяк-сумленьня стаў скрабсьці сэрца пана, але надта-ж цяжка прызнацца ў сваей віне і ў сваім злачынстве, асабліва „вялікай шышцы“ з носам. Думаў пан склікаць кансіліум дактароў і парэзаць быка на клёцкі, каб пераканацца, што бык атручаны наўмысна рукой пастуха. Але перадумаў, што дактаром трэба заплаціць за фатыгу, ды ўразе няўдачнай апэрацыі боязна — „ударить в грязь лицом“. Адумаўся і ўціхамірыўся над „сьмерцю“ быка. Аж чуе пан Аганоўскі, што ягоны верны „халоп“, дзякуючы панскім „ласкам“, у бальніцы. Захацелася яму зрабіцца з фарысейскага пабуджэньня, ці з пабуджэньня „Міласэрнага Самараніна“ хрысьціянінам, бо захацеў па часе, па шкодзе забраць яго з бальніцы і на ўласныя грашакі зьмягчыць пакутаваньне бязвіннага хлапца. Доктар яму не дазволіў узяць да паўсьмерці зьбітага, тлумачучы пану, што ён не давязе жывым да хаты. Дык вось вам, „грамадзяне свабоднага краю“, прыклад кракадылявых сьлёз над бяздольным парабкам беларускім!..

**Ягор Зьліза-Мядовіч.**

## Наш солтыс.

(В. Вялікія Жухавічы, Стаўпецкага пав.).

Ёсьць у нас солтыс, Язэп Юшко, якога выбралі яшчэ ў 1920 годзе, а цяпер ён так умацаваўся, што ніяк яго ня зьменіш, і мусіць дужа добра дагаджае ён начальству, калі пан староста гэтак доўга яго трымае. Хацелі сяляне выбраць другога солтыса ў 1925 годзе (вельмі-ж гэты ўеўся ў косьці!) ды склікалі сход, але калі сказалі: хто за старога солтыса, стань на адным баку, а хто за новага—на другім, то некаторыя сяляне, збаяўшыся папасьці ў сьпіс „osób podejżanych“, большасьцю сталі на старане старога солтыса.

А сколькі крыўдаў нарабіў гэты панскі падлізьнік нам—аж трудна ўсіх прыпомніць!

Ёсьць у нас кавалак супольнай сенажаці, якую прадавалі заўсёды на свае грамадзкія справы; сёлета солтыс прадаў сам сенажаць, а грошы няведама куды дзеліся.

Калі трэба якая падвода па гміннымі справам, дык солтыс устанавіў калейку, — бо за гэта ня плацяць; а калі трэба падвода за плату, дык ён сам едзе, або высылае якогась сваяка.

Мае наш солтыс свае $4^{1}/_{2}$ дзесяціны зямлі, дык, калі была парцэляцыя, яму за верную службу далі яшчэ 8 гэктараў—у той час, як нашаму беднаму селяніну, які мае ад 1 да 2 дзес., далі адзін гэктар або найбольш два, або і зусім нічога.

Многа трэба было-б пісаць, каб апісаць усе „фокусы“ гэтага запраўды каменнага (бо ніяк яго ня зьменім!) солтыса.

Цяпер вось „godny zaufania“ солтыс распусьціў 1450 злотаў (280 рублей золатам) падаткаў гэтага крывавага поту згалеўшага нашага сялянства.

Дык вось якіх солтысаў садзяць нам паны старасты, вось якія асобы лічацца „благанадзёжнымі“ ў панскім урадзе: ім і зямлю даюць, і зьдзекі над сялянамі паміж вушэй прапускаюць, абы лупіў апошнюю скуру з беднага селяніна. А трэба сказаць: зьбіраць падаткі солтыс наш умее — сэквэструе апошнюю скаціну, і хоць лопні, а мусіш аддаць! Дык і цяпер мусіць выйдзе сухім наш солтыс: гэта-ж ня рэдка бывае...

**Грамадавец № 1.**

## Гадунец „духоўнае“ школы.

(Луконіца, Слонімскага пав.).

Толькі родная школа вучыць шанаваць і любіць свой народ, сваю мову, а перадусім сваіх працоўных бацькоў і братоў.—Чужая нацыянальна і сацыяльна ўзгадоўвае „паноў“ з сялянскіх дзяцей, навучае іх аднасіцца з пагардай да ўсяго свайго роднага, да мужыцкае сярмягі; асабліва-ж —школа „духоўная“.

Вось прыклад:

Наш ксёндз Францішак Пэрко, па паходжаньню беларус (з Сьвянцянскага пав.), а вось што зрабіла з яго польская школа сэмінарыя: бацькоў і братоў не шануе, толькі за сабою — „панам“ глядзіць.—Прыехаў ён у нашу парахвію з старою 70-гадоваю маткаю; — гэтая бабуня працавала на сынка і ў хаце і ў гародзе, як магла,—з сілы выбівалася, а гэты сынок так дапякаў матульцы, што тая ў гадзіну ночы ўцякла ў Слонім, а там, пазычыўшы ў дзяка грошай, паехала да хаты.

— Прыехаў брат, пажыў месяц, і такая-ж доля яго спаткала.

Пасьля прыехаў бацька—старусенькі дзядок, а працаваў за маладога: гараў, баранаваў, пасьвіў коні сынку і г. д.—прабыў тры месяцы. За гэты час „сынок ксёндз“ толькі зьдзекаваўся над бацькам ды лаяў што-дня, а бацька абарваўся, што каленямі голымі сьвяціў, і ўрэшце і ён рашыў уцячы. Сын грошай ня даў на дарогу, дык бацька нарабіў грабель, прадаў і за гэтыя грошы ўцёк дахаты.

Вось якіх дзяцей і грамадзян узгадоўвае чужая школа.

Дык дамагайцеся, беларусы, роднай беларускай школы і там вучэце сваіх дзяцей.

**Вачавідзец.**

## Праз арганізацыю ў сваей Грамадзе здабудзем правы свае.

(Бельшчына).

Цяпер у Белавежскай пушчы тартакоў да гібелі—пілуюць і прадаюць нашае дабро, а селянін наш ня можа зарабіць там якісь злоты на падатак.—Працуюць там розныя белагвардзейцы, як балахоўцы і іншыя. Калі хто і ўватрэцца на работу, то працуе асобна, бо балахоўцы або купцы ў родзе Фэлікса Лазіцкага пры расплаце абавязкава ашукаюць. — Дык работнікі нашы цяпер зразумелі, што толькі з'арганізованымі можна адваяваць належнае, ды з'арганізавалі свой гурток Бел. Сял.-Раб. Грамады і ўжо грамадою бароняць свае інтарэсы.

Дык работнікі з Белавежы: па прыкладу першых—у Грамаду! **Зубр.**

## Нам пішуць з вёскі што:

× Янка Вялько праслужыў намесьнікам больш як 25 гадоў у фальварку Панютычы, Нясьвіскага пав., дзе і руку яму адарвала панская малатарня, а цяпер пан яго выгнаў. Бедны калека пайшоў шукаць хлеба,—згадзіўся сад пільнаваць каля Баранавіч, а пан з войтам і камандантам Сноўскай паліцыі прыехалі і павыкідалі яго рэчы з хаты, і гніюць апошнія манаткі на дажджы. А дзе гэты калека будзе зімаваць?!

× Заступнік войта Жыравіцкай гм., Слонімскага пав.—Гэнрык Бычкоўскі за падаткі забірае ў сялян апошнія хамуты, бабскія спадніцы і г. п. рэчы.

× Арандатар двара Пятроўшчына сэнатаркі Карпіцкай, Маладэчанскага пав.—Брунон Штылер, паштрафаваў па два пуды жыта сваіх праваслаўных парабкоў за тое, што яны сьвяткавалі свае Спаса (6—19.VIII). (У месяць парабкі дастаюць па 5 пудоў).

× Сяляне в. Лаўцэвічы, Хаценчыцкай гм. Вялейскага пав. жаляцца, што школы яны ня маюць і колькі яны не прасілі, — улада не адчыняе; — дзеці растуць, як у лесе, бяз граматы — сьвятла.

× Як прыехаў поп Іван Чувардынскі ў Паршавічанскую парахвію, Пінскага пав., то завёў новыя парадкі—забраў у старасты ключы ад царквы і гаспадаруе сам і цяпер давёў да таго справу, што праз агарожу сьвіньні ходзяць пад царкву ды падрываюць фундамант.

× Мікалай Адамчык згадзіў свайго сына Міхася пасьвіць скаціну ў арандатароў двара Барэвічы, Гарадзечанскай гм., Наваградзкага пав., за тое, каб пасеяць лыгі на іх поле. Пасеяў, скасіў, а як прыехаў забіраць, то арандатар Пятрусь Біруля прыйшоў не даваць і пабіў граблямі Мікалаю Адамчыку рукі і галаву, ды лыгу памалаціў на полі.

× Солтыс в. Руціца, Карэліцкай гм., Наваградзкага пав.—Друцько і Тодар Карчэўскі палохаюць сялян, што запісваюцца ў Грамаду, пагражаючы, што пададуць іх паліцыі;—і Карчэўскі за асабістую справу хацеў падаць паліцыі Кастуся Лейку ў Навьградку, але — ясна — сабакі гэтага ніхто і слухаць не хацеў, ды самога чуць не арыштавалі.

× На станцыі Аляхновічы, Вялейскага пав. праводзяць шасу, дык абшарнікі за гэта ўмовіліся „заплаціць“ ад дзесяціны, а сяляне мусяць вазіць пясок, ды даць па два работнікі ад дзесяціны. Ды яшчэ паны павялічваюць на паперы колькасьць зямлі ў сялян у тры разы, а хто заспорыць, дык на пастарунак, пратакол ды штраф.

× Мікалай Чубрык, солтыс в. Цімашковічы, Райчанскай гм. Наваградзкага пав., запрадаўся паном, называе сваіх аднасяльчан камуністамі і бандытамі, ды робіць паліцыі даносы на сялян.

× Мікалай Драгун з в. Есьманоўцы, Гарадоцкае гм. Маладач. пав., што кончыў тры клясы вуч. сэмінарыі, агітуе проці Грамады, пагражаючы сялянам арыштам, калі яны запішуцца ў Грамаду.

× Варшаўскі купец Фэлікс Лозіцкі (кажуць, сябра ППС) не даплаціў сялянам Белавежы па 28 зл. 50 гр.—разам 250 зл. і ўжо паўгода ані грошай не аддае, ані сам не паказваецца з Варшавы.

× Скідэльскі войт, Горадзенскага пав., да паноў ліжацца, ды служыць ім, а з селянінам толькі з тым добра, хто прыходзіць да яго з бутэлькай.

× Лясьнік Маладэчанскага пав., Гарадоцкай гм.—Аніісь Раманчык пасадзіў для сябе тытуну;— прыйшоў паліцыянт, скасіў тытун, пазнасіў у хлеў і патаптаў у гной.

× Пан Блажэвіч, надлясьнічы ў Белавежскім надлясьніцтве, вельмі гняце сялян;—за пашу скаціны ў лесе бярэ па шэсьць злотых ад штукі і трэбуе, каб загарадзілі яму гарод, а хто не заплаціў яшчэ ўсіх грошай, пагражае, што ня пусьціць жывіны ў лес.

## Юрыдычныя парады.

**А. Дуровічу.** Каб даць правільны адказ, трэба ведаць, калі памер бацька.

**Крапіве.** 1) Апісываць могуць толькі тое, што належала да брата; 2) Могуць адсудзіць.

**Міхалу Горкаму.** Калі за купленую зямлю бацька ня судзіўся, то цяпер позна распачынаць суд.

**Сіраце.** 1) Можна падаваць у Міравы Суд. 2) Старшы сын мае права на $^{1}/_{7}$ часьць; рэшта належыць да маткі, малодшага сына і дачок; перад падачай у суд над дзяцьмі трэба паставіць апеку. 3) Маці мае $^{7}/_{49}$ ч., бязьдзетная нявестка $^{3}/_{49}$ ч., а рэшта $^{39}/_{49}$, — дзеці памершага брата. 4) Можна судзіцца.

**Якубу Сіўку.** 1) У тэстаманьце маці магла запісаць ня ўсю зямлю, а толькі сваю сёмую часьць. Судзіцца можна, але наперад нічога сказаць ня можна, як гэты суд скончыцца. 2) Трэба перш ведаць, калі брат ажаніўся і ці ў яго жонкі ёсьць браты.

**Чычку.** Калі бацька прышле фармальную даверанасьць, дык трэба зьняць апеку.

## Паштовая скрынка.

**Грам. падпішчыку № 2979.** Уважаем, што лепш Вашай карэспандэнцыі не зьмяшчаць.

**Грам. з Забалоцьця.** Аб хцівасьці і барматаньні якойсьці старой з двара бабы, хоць яна і „пані“, ня варта займаць месца ў газэце і ня трэба зварочваць на яе зьвягу ніякай увагі.

**Казлоўскаму К-ту.** Вашу адозву зьмяшчаць баімося,—сканфіскуюць газэту.

**Рабочым з Слоніма, што Герасімовіч не аддае зробленых грошай.** Вашу просьбу перадалі паслом для інтэрпэляцыі.

**Грам. Молату.** Карэспандэнцыі Вашы атрымалі,—скарыстаем.

**Я. Л.** (Ярэміцкая гм., Стаўпецкага пав.). Ваш верш, у якім апісываеце крыўды працоўнага чалавека, відаць, выліўся запраўды з Вашае душы, як крык болю, — ды, на жаль, форма яго дужа слабая. Пачытайце вершы лепшых нашых паэтаў, дык зразумееце, у чым у Вас недахватка.

**Яну Скамароху.** (Пачапаўская гм., Наваградзкага пав). Вершу Вашага, напісанага парасейску, перакласьці на беларускую мову ня можам, бо на гэта трэба быць паэтам. Думкі ў Вас добрыя, форма не благая, дык папрабуйце тое-ж выказаць набеларуску самі.

Адказны-Рэдактар: **Т. Крачына.** Друкарня **Я. Левіна**, Вільня, Нямецкая 22. Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**